Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЛІПЕНЯ 2014 г.

РАКІРОЎКА

# З молатам — на хакейную кавадлу

*Вядомага кідальніка молата **Вадзіма Дзевятоўскага** рэкамендавалі да вылучэння на пасаду старшыні Беларускай федэрацыі хакея.*

Нагадаем, што Вадзім Дзевятоўскі — прызёр Алімпійскіх гульняў, чэмпіянату свету і Еўропы. З 2012 года з'яўляецца дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Ініцыятарам вылучэння 37-гадовага дэпутата на адказную пасаду выступіў ХК "Дынама-Мінск".

З гэтай нагоды "Народная Воля" задала **Вадзіму ДЗЕВЯТОЎСКАМУ** некалькі пытанняў.

**— Вы лічыце нармальнай сітуацыю, калі былога лёгкаатлета, які не мае практычна ніякага дачынення да хакея, прызначаюць кіраваць усёй хакейнай гаспадаркай краіны?**

— Па-першае, мяне яшчэ не прызначылі, пакуль толькі паступіла прапанова. Пытанне будзе вырашацца на справаздачна-выбарнай канферэнцыі... Па-другое, я б сказаў так: былому спартсмену прапанавалі ўзначаліць спартыўную федэрацыю. Так, у любым відзе спорту ёсць свая спецыфіка. Але, напрыклад, Федэрацыю біятлона ўзначальвае старшыня КДБ, які наогул не быў прафесійным спартсменам. І што, поспехі біятланістак на Алімпіядзе ад гэтага сталі меншымі? Спартыўным развіццём займаюцца прафесійныя трэнеры, а кіраўнік павінен збіраць інфармацыю аб праблемах у сваёй галіне і вырашаць гэтыя праблемы.

**— Адным словам, вы не супраць, каб хакейны трэнер Міхаіл Захараў узначаліў Федэрацыю лёгкай атлетыкі?**

— Калі да Захарава звярнуцца спецыялісты з лёгкай атлетыкі і палічаць неабходным... Разумееце, такія пытанні лепш задаваць тым, хто вылучаў маю кандыдатуру. Я проста прыняў выклік з улікам таго, што збіраюся працаваць на вынік. За хакеем даўно назіраю, люблю яго. Падчас дамашняга чэмпіянату свету бачыў, як краіна жыла гэтай гульнёй, як перажывалі балельшчыкі. Для іх і трэба працаваць.

**— Вас будуць выкарыстоўваць як адміністрацыйны рэсурс?**

— Я скажу аб сваёй матывацыі. Яна адна — канчатковы вынік.

**— Думаеце, калі б не былі дэпутатам, вас бы вылучылі на гэтую пасаду?**

— Мяркую, што мая дэпутацкая дзейнасць дала магчымасць людзям убачыць ў маёй асобе падыходзячую кандыдатуру. Я прымаў непасрэдны ўдзел у дапрацоўцы Закона аб фізкультуры і спорце, максімальна ўлічваў меркаванні ўсіх федэрацый... Магчыма, заўважылі маю напорыстасць і веру ў заўтрашні дзень. Можа быць, без дэпутацтва гэтыя якасці і не разглядзелі б.



**— У свой час Федэрацыяй хакея кіраваў міністр унутраных спраў Беларусі Уладзімір Навумаў. Гэта быў на самай справе моцны "рэсурс". Калі такі кіраўнік прапаноўваў спонсарам "дапамагчы" хакею, то наўрад ці хто адмаўляў...**

— Матэрыяльная складаючая важная, але не галоўная. У нейкі момант грошы нават ствараюць праблему, бо за імі губляецца самая галоўная матывацыя — праца на вынік.

**— У хакейным клубе, які прапанаваў вашу кандыдатуру, кажуць, што вы "не проста знаёмыя з новым Законам аб спорце, але і былі адным з тых, хто яго ўдасканальваў". Чым дэпутат Дзевятоўскі са сваім веданнем закона можа дапамагчы беларускаму хакею?**

— Кожная федэрацыя бачыла ў законапраекце свой інтарэс, і я стараўся вынесці іх прапановы на абмеркаванне рабочай групы. Як кажуць спецыялісты, гэта дастаткова якасны дакумент, закон вырашыць многія праблемы.

**— Вы разумееце, на якую небяспечную пасаду згаджаецеся? Хакей у нас на асаблівым кантролі, у выпадку чаго з вас першага, як кажуць, здымуць скальп...**

— Калі ўжо зараз думаць аб будучых памылках і аб тым, як з мяне будуць "здымаць скальп", то за справу наогул лепш не брацца. У спорце патрэбна дынаміка, пакуль будзем думаць, сапернік ужо будзе наперадзе. Зрэшты, час усё пакажа і паставіць на свае месца.

**— Калі не памыляюся, вы яшчэ працуеце і ў Беларускім альянсе танцавальнага спорту?**

— Так, уваходжу ў склад прэзідыума. Кансультую па некаторых пытаннях...

**Алесь СІВЫ.**

## КАМЕНТАРЫЙ ПА СПРАВЕ

**Уладзімір БЕРАЖКОЎ, генеральны менеджар ХК "Дынама-Мінск":**

*— Дзевятоўскі поўнасцю адпавядае шэрагу патрабаванняў да кіраўніка федэрацыі. Па-першае, гэта павінна быць даволі вядомая ў краіне і паважаная асоба. Па-другое, ён павінен дасканала ведаць спорт. Не толькі з пункту гледжання трэніровак і спаборніцтваў, але і з пазіцыі спартыўнага заканадаўства. І вось тут Вадзіму Анатольевічу цяжка скласці канкурэнцыю.*

*Разумею, што кандыдатура Дзевятоўскага можа кагосьці шакіраваць. Але трэба разумець, што гэта спартсмен, які ўжо шмат чаго дасягнуў і ў галіне палітыкі, і ў галіне спартыўнага права. Ён ведае праблемы спорту,* — цытуе прадстаўніка хакейнага клуба pressball.by.

ПОЛИТКУХНЯ

## Левые готовятся к съезду

В октябре планируется провести Конгресс левых сил Беларуси.

По словам председателя партии "Справедливый мир" **Сергея Калякина**, в регионах уже обсуждаются проекты "Платформы левых сил к выборам президента в 2015 году" и "Послание левых партий белорусскому народу", передает БелаПАН.

Координатор оргкомитета по созданию Белорусской партии трудящихся **Александр Бухвостов** замечает: делегаты от левых на Конгрессе демократических сил поддержат того кандидата от оппозиции, который согласится с платформой левых. Пока левые не планируют выдвигать своего кандидата в президенты или же в "единые" от оппозиции.

ПОДРОБНОСТИ

## Почему сломался самолет?

Больше ста белорусских туристов не могли вылететь из Хургады более 12 часов.

"В египетском аэропорту во время технического обслуживания самолета Boeing 737-300, совершавшего чартерный рейс по маршруту Минск—Хургада—Минск, была обнаружена неисправность, — *рассказывает об инциденте пресс-служба "Белавиа".* — Авиакомпания "Белавиа" приняла решение отправить в Хургаду запасной самолет Boeing 737-300, чтобы доставить пассажиров в Беларусь. Также из Минска на этом самолете прибыли техники "Белавиа" по обслуживанию судов данного типа.

Всего на данный рейс было зарегистрировано 144 пассажира, в том числе 32 ребенка. По расписанию самолет должен был вылететь в 09.25, задержка составила 13 часов. Пассажирам была предоставлена возможность связаться с родными по телефону и провести время ожидания в отеле по системе "все включено", кроме того, был обеспечен трансфер от/до аэропорта.

Что касается самолета, в котором были обнаружены неполадки, то специалисты, прибывшие в Хургаду, устранили их. Этот самолет вылетел из Египта 17 июля в 01.58 по минскому времени и в 05.42 благополучно приземлился в Минске. Воздушное судно в течение трех дней будет проходить плановое техническое обслуживание, 20 июля самолет возобновит полеты. Авиакомпания "Белавиа" приносит свои извинения за причиненные неудобства".

ЧУЛІ?

# Ордэн Працоўнай Славы... Каму?

*Няма тыдня, каб кіраўнік дзяржавы не падпісваў указ аб узнагародах, але зараз высветлілася, што менавіта ўзнагарод у нашай краіне не хапае.*

У Палату прадстаўнікоў паступіў праект змяненняў у "Закон аб дзяржаўных узнагародах", якім са спасылкай на грамадскую думку прапаноўваецца павялічыць колькасць вышэйшых дзяржаўных адзнак.

Нагадаем, што зусім нядаўна прэзідэнт Расіі вырашыў адрадзіць званне "Герой працы", якое было скасавана ў 1991 годзе разам з усёй савецкай сістэмай узнагарод. Па прыкладзе Пуціна вырашыў дзейнічаць і Аляксандр Лукашэнка: паколькі ў нас ёсць званне "Герой Беларусі", то прапаноўваецца адрадзіць ордэн Працоўнай Славы.

Нагадаем, што такая ўзнагарода існавала ў Савецкім Саюзе ў часы "махровага застою" — ордэн быў зацверджаны ў 1974 годзе. З гэтай нагоды нават жартавалі: чым менш у савецкай эканоміцы поспехаў, тым больш праслаўленых працаўнікоў. Узнагароджвалі ім прадстаўнікоў прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі.

У беларускай рэінкарнацыі ордэнам Працоўнай Славы таксама плануецца ўзнагароджваць "за значныя вынікі працоўнай дзейнасці ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і іншых галінах народнай гаспадаркі". Праўда, цяжка сказаць, дзе ў нас такія дасягненні, на якія не хапае існуючых ордэнаў і медалёў. Здавалася б, ёсць у краіне ордэн Пашаны — і хопіць. Чым ён дрэнны?..

Але, з другога боку, калі ў краіне ёсць ордэн Вайсковай Славы (а ў Беларусі ён ёсць), то чаму б не быць і ордэну Працоўнай Славы?.. Няўжо людзі ў форме больш значныя для краіны, чым мірныя працаўнікі?..

Яшчэ адзін важны дадатак да закона — пашырэнне сферы дзейнасці тых, хто можа насіць званне "Народны". Раней логіка такой узнагароды была простая: "народнымі" маглі стаць толькі прадстаўнікі творчых прафесій — паэты, мастакі, артысты, пісьменнікі. Цяпер плануецца, што ў нашай краіне таксама будуць "народныя ўрачы" і "народныя настаўнікі".

Прапанова вельмі спрэчная. Бо калі выходзіць за кола творчых прафесій, то патрэбны і "народны спартсмен", і "народны ратавальнік", і "народны архітэктар", і "народны лесавод"... Чым яны горшыя?

Дарэчы, узнагародамі вырашана падзяліць і тых, хто раней атрымліваў аднолькавую павагу ад дзяржавы за асабістую мужнасць. Для людзей неваенных (калі, напрыклад, чалавек выратаваў некага на пажары ці на вадзе) прапанавана ўвесці медаль "За выратаванае жыццё". А вось медаль "За адвагу" застанецца толькі для ваенных, міліцыянераў, прадстаўнікоў КДБ, пагранвойскаў і іншых сілавых структур. І пакуль цяжка сказаць, ці застанецца аднолькавай "вага" гэтых медалёў. У праекце закона пра гэта нічога не напісана.

**Ігар МАРОЗАЎ.**



**Былы сакратар Савета бяспекі, былы генеральны пракурор, былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, цяпер — кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта Віктар Шэйман. Не тое што грудзі, але хутка і жывот можа быць у медалях. І ў той жа час дэмакратычная супольнасць падазрае гэтага чалавека ў тым, што ён меў непасрэднае дачыненне да знікнення вядомых палітыкаў...**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Найноўшая гісторыя ў асобах» — па-англійску

*Днямі ў амбасадзе Германіі ў Мінску прэзентавалі чарговую кнігу журналіста Аляксандра Тамковіча "Найноўшая гісторыя ў асобах" у перакладзе на англійскую мову.*

— Спецыяльна для іншаземцаў кніга багата ілюстравана — амаль трыста фота, большая частка якіх з прыватных архіваў, — *цытуе Аляксандра Тамковіча baj.by.* — Усё зроблена для таго, каб чытач лепш зразумеў асобу героя. Калі выйшаў беларускамоўны варыянт, яго слушна назвалі "энцыклапедыяй выкрасленых імёнаў". Спадзяюся, выдадзеная па-англійску кніга будзе вельмі карыснай замежным дыпламатам, бо фактычна яна з'яўляецца пашыраным літаратурным варыянтам даведніка "Хто ёсць хто".

Для чалавека, які ўпершыню трапляе ў Беларусь, будзе не залішнім завочнае знаёмства адразу з усім палітычным бамондам нашай краіны. Гаворка не толькі пра палітыкаў, але і пра вядомых кіраўнікоў "трэцяга сектара". Зрэшты, у нашай непрыстойнастабільнай краіне палітыкай лічыцца ўсё, што так называе ўлада. Таму ўдакладняю: з "апазіцыйным" бамондам.

Але там ёсць і перакананыя камуністы, і прынцыповыя нацыяналісты. На мой погляд, калі кіравацца толькі ўласнымі палітычнымі сімпатыямі, не атрымаецца нічога вартага. Асабліва калі размова ідзе пра людзей творчых. Памятаю, як адзін паэт вельмі настойліва раіў мне не пісаць пра другога таму, што некаторым не падабаюцца яго вершы...Так што папрокі наконт нейкай "неразборлівасці" — не да мяне. Калі энцыклапедыі пачынаюць пісаць "пад кагосьці", яны абавязкова рана ці позна трапляюць у макулатуру...

ЗАКУЛИСЬЕ

## Продавец автомобилей премиум-класса остался без дома

*Компания "Автоидея", обладатель самого крупного автосалона в Беларуси, дилер BMW и MINI, ютится в тесной комнатке.*

Придя в нашу страну несколько лет назад, литовский импортер BMW и MINI организовал собственное дилерское предприятие, для работы которого арендовал просторное помещение у компании "А-100". Планы оказались амбициозными: за кольцевой на 50-м километре МКАД началось строительство здания собственного автоцентра.

Это стало настоящим событием для Беларуси: здание автосалона BMW и MINI считается одним из самых крупных среди дилерских центров в Европе. На площади в 6 тыс. "квадратов" расположены шоу-румы, сервисное помещение и покрасочный кузовной цех. К слову, это первый сервисный центр BMW полного цикла в нашей стране.

Вот только автовладельцы BMW ремонтируют свои автомобили у конкурента — на дилерском предприятии "Байернкрафт". Оказывается, "Автоидея" осталась без помещения.

Объявив об окончании строительства нового здания и показав его журналистам, дилер объявил переезд. Но обосноваться на новом месте никак не удается: помещение не сдано. Красивые плакаты и стойки с товаром, продемонстрированные СМИ, вынесены на склад, идут работы по укладке коммуникаций. Оказывается, журналистам показали только красивую обертку, над содержимым которой в настоящее время идет работа. Мы убедились в этом, посетив старое и новое помещения.




Старое демонтируют. Из шоурума нового автоцентра вынесли все, кроме автомобилей, по территории снуют рабочие. Все, что осталось от "Автоидеи", — это тесная комната по старому адресу, в которой расположились сотрудники отдела продаж. Около 15 человек ведут активные переговоры с клиентами: отсутствие здания не мешает продажам.

Примечательно, что сами сотрудники "Автоидеи" не могут назвать точную дату окончания их проблем. Ожидается, что документы, легализующие деятельность нового автоцентра, будут подписаны не раньше августа.

**Рита СКИТЕР.**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

*Ігар ЛЯЛЬКОЎ:*

# Найбольш актуальна для Беларусі стварэнне зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам

*На першым пасяджэнні Форуму палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці было вылучана шэсць прыярытэтаў рэформаў. Зараз неабходна абраць з іх адзін — той, над якім і пачнуць працаваць эксперты ў рамках праекта "Рэфорум". Пра актуальнасць гэтых прыярытэтаў, а таксама пра тое, чым апазіцыя павінна пераканаць грамадства, распавядае старшыня Форуму, намеснік старшыні Партыі БНФ **Ігар Лялькоў.***

**— Ігар, якія ж прыярытэты вылучылі пасля дыскусіі ўдзельнікі Форуму палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці?**

— Пакуль прыярытэтаў шэсць. Першы — гэта стварэнне зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам. Другі — рэформа пенсіённай сістэмы. Трэці — рэформа выбарчага заканадаўства. Чацвёрты — рэформа медыясферы. Пяты — адукацыйная рэформа. І шосты — рэформа жыллёвага заканадаўства.

**— Падрабязней пра гэтыя прыярытэты мы яшчэ, безумоўна, пагаворым. А пакуль пра агульныя ўражанні: як вы ацэньваеце перспектывы праекта "Рэфорум" і ўзровень першага пасяджэння Форуму?**

— Першы раўнд "Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі Беларусі" (праекта, які быў да "Рэфоруму"), зайшоў у тупік. Яго неабходна было ажывіць, паспрабаваць правесці яго ў новым фармаце. І такі фармат быў вызначаны. Наколькі ён будзе паспяховы, наколькі ён здольны выпрацаваць канкрэтныя рэчы, якія, як кажуць, можна "памацаць рукамі", — пакуль казаць складана. Праект разлічаны на два гады, і пакуль ён толькі-толькі пачаўся. Таму падвесці некаторыя вынікі можна будзе недзе праз паўгода. Тады будзе больш відавочна, ці здольны "Рэфорум" мець шанцы на поспех. Гэта што тычыцца праекта наогул.

Першае пасяджэнне Форуму прайшло даволі паспяхова. Відавочна, што яго ўдзельнікі ўскладаюць пэўныя спадзяванні на гэты праект і таму ўключыліся ў працу дастаткова актыўна. У пасяджэнні ўдзельнічалі прадстаўнікі дванаццаці з пятнаццаці арганізацый, якія ўвогуле ўтвараюць сёння Форум палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці. Ніхто не адседжваўся, усе актыўна выказваліся. Таму відавочна, што цікавасць да праекта, да сумеснай працы ёсць. І гэта ўжо добра.

Прынамсі, ужо ёсць і адзін добры вынік — стварылася новая пляцоўка дыялогу ўнутры палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці. Такіх пляцовак не вельмі шмат у Беларусі, таму наяўнасць яшчэ адной — ужо станоўчы вынік.

**— Ці створаны план працы Форуму?**

— Агульны план закладзены ў канцэпцыі праекта. Нагадаю, што на працягу двух гадоў Форум павінен выпрацаваць чатыры накірункі рэформаў — па адным кожныя паўгода. Яны і стануць замовай для экспертнай супольнасці. Вось гэта асноўны, рамачны план. Пасля, праз паўгода, эксперты прадстаўляюць нам свае распрацоўкі. Яны зацвярджаюцца Форумам, і пасля пачынаецца працэс прасоўвання канцэпцыі рэформы ў масы.

**— Вернемся да прыярытэтаў, вызначаных Форумам. На ваш асабісты погляд, які з іх сёння найбольш актуальны для нашай краіны?**

— Калі зыходзіць з таго, што мы хочам атрымаць ад гэтага праекта нейкую дадзеную вартасць, лічу, што трэба браць найменш распрацаваныя накірункі. З таго, што было прапанавана, на маю асабістую думку, найбольш актуальна стварэнне зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам. З аднаго боку, тут менш за ўсе напрацовак. З другога — гэта вельмі важна сёння для Беларусі.




**— Апазіцыю, як і грамадзянскую супольнасць, часам справядліва, часам не папракаюць у непрымірымых сварках і няздольнасці дамовіцца першнаперш паміж сабой. Ці існуе пагроза таго, што і ў гэты раз добрая, здаецца, справа будзе пахавана ў бясконцых спрэчках? І як ставяцца да гэтай праблемы ўдзельнікі Форуму?**

— Ведаеце, на першым пасяджэнні, кожная арганізацыя імкнулася пераканаць прысутных у тым, што менавіта вылучаны ёю прыярытэт з'яўляецца найбольш актуальным для грамадства. Але мы павінны вучыцца чуць адзін аднаго і пагаджацца. І вось якраз на глебе неабходных для краіны рэформ згоду і можна будзе знайсці, таму што ў рэшце рэшт усе мы зацікаўлены ў ажыццяўленні і такіх праектаў, і рэформаў наогул. І тут паразуменне можна знайсці значна хутчэй, чым у некаторых палітычных пытаннях. Таму я спадзяюся на канструктыўную працу і на тое, што мы зможам прыйсці да агульных рашэнняў.

**— У шматлікіх канцэпцый рэформаў, якія былі ў розныя часы распрацаваны ў нашай краіне, ёсць агульная рыса: вельмі мала з іх было нават часткова ўвасоблена ўладай на практыцы. Ці ёсць, на ваш погляд, шанц на тое, што ў гэты раз становішча будзе іншым і распрацоўкі незалежных экспертаў нейкім чынам зацікавяць тых, хто прымае рашэнні наконт рэфармавання?**

— Ёсць важны фактар: акрамя апазіцыі і грамадскага сектара ёсць яшчэ і трэці гулец — гэта Еўрапейскі Саюз. Уласна кажучы, ён гэты праект і ініцыяваў. Таму мы разлічваем: калі мы зможам стварыць дэталёвыя і абгрунтаваныя канцэпцыі рэформаў, мы атрымаем дапамогу Еўропы і ў перакананні беларускай улады ў тым, што гэта неабходна для Беларусі. А казаць сёння, што ўлада не зацікаўлена ў дыялогу з Еўрасаюзам, на мой погляд, нельга. Ёсць спадзяванне на тое, што рэалізацыя рэформ будзе адной з умоў для паляпшэння адносін з ЕС, а гэта можа быць моцным аргументам для кіраўніцтва краіны.

**— Відаць, непрыемнае пытанне, але ж вось дадзеныя сацыялагічных даследаванняў. Згодна з імі, толькі тры працэнты апытаных беларусаў лічаць, што рэформы павінна распрацоўваць палітычная апазіцыя. Вам не здаецца, што гэта — палітычны прысуд?**

— Гэта не прысуд, а выклік. І мы сваёй працай, у тым ліку ў межах праекта "Рэфорум", павінны пераканаць грамадства ў тым, што палітычная апазіцыя здольная распрацоўваць рэформы. Прычым не на ўзроўні лозунгаў, а на ўзроўні канкрэтных, прадуманых крокаў. І якраз вынікі працы нашага Форуму ў рамках гэтага праекта павінны стаць адказам грамадству.

**Мікалай АНІШЧУК.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 ЛІПЕНЯ 2014 г.

**SOS!**

## Курят больше 65% студентов и школьников!

*Такие цифры озвучил главный внештатный кардиолог Минздрава, директор РНПЦ "Кардиология" **Александр Мрочек.***




"В последние годы интенсивность курения среди женщин и молодых людей существенно возросла, — *цитирует belta.by Мрочека.* — В Беларуси курят около 45% мужчин и 35% женщин, более 65% студентов и школьников. Табакокурение является опосредованной причиной каждого пятого случая смерти среди лиц старше 35 лет. По данным ВОЗ, около 23% смертей от ишемической болезни сердца обусловлены именно этой вредной привычкой".

**ЗА РУЛЕМ**

## Новые авто белорусы везут из России

*Около 14 тысяч новых автомобилей купили за первую половину этого года жители Беларуси. В лидерах продаж — Renault, Volkswagen и Kia.*



Правда, как отмечают в Белорусской автомобильной ассоциации, в апреле около трети всех автомобилей в Беларуси были проданы салонами Российской Федерации.

*"В июне этот показатель составил 15%,* — цитирует interfax.by члена правления БАА **Сергея Вариводу**. — *Механизмы таких продаж простые — от поездки белорусов в автосалон в Смоленск, Брянск или Москву до использования услуг посреднических фирм, которые организуют "серую" поставку автомобилей из России. Ввозятся автомобили как собранные в России, так и импортированные. По некоторым маркам объем ввоза через российские каналы в апреле превышал половину".*

## В Минске появится заправка для электромобилей

*Пока планируется запустить всего один такой пункт, поскольку электромобилей в Минске еще не очень много.*

— Сегодня подзарядить авто можно на любой заправке, другое дело, что на это потребуется 7–8 часов, — *цитирует агентство "Минск-Новости" председателя правления группы компаний "А-100"* **Александра Центера.** — Наш проект специальной заправки для электромобилей уникален тем, что здесь на полную зарядку уйдет всего полчаса.

**БУДЬТЕ В КУРСЕ!**

## В поезд — с правами!

*И без паспорта.*

"С целью повышения качества обслуживания и увеличения электронных продаж пассажирам, прошедшим электронную регистрацию, разрешается осуществлять проезд в поездах формирования Белорусской железной дороги по оригиналу водительского удостоверения в пределах Республики Беларусь", — сообщает пресс-служба БЖД.

**ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ**



*Алесь ЛАГВІНЕЦ:*

# «На еўрапейскай палітыцы зуб з'еў»

*Ён умее зрабіць уражанне. Выглядае маладзей сваіх гадоў. Адукаваны, абаяльны, інтэлігентны. Меў магчымасць назаўсёды застацца за мяжой і зрабіць там неблагую кар'еру. Але патрыятызм і беларускасць для яго — не пусты гук. З палітолагам Алесем Лагвінцом мы размаўлялі не толькі пра палітыку і пацалункі.*



## Пайсці альбо застацца?

**— Алесь, апошнім часам беларускія сродкі масавай інфармацыі прыблізна раз на тыдзень вылучаюць вас кандыдатам у прэзідэнты. Вы сапраўды маеце намер увязацца ў барацьбу за крэсла кіраўніка дзяржавы?**

— Размовы вядуцца не толькі наконт мяне — абмяркоўваюцца яшчэ і іншыя асобы. Я сам не раблю ніякага ўкідвання інфармацыі ў публічную прастору і ніяк не ініцыірую абмеркаванне сваёй кандыдатуры.

**— Але вы для сябе ўжо прынялі канчатковае рашэнне — увязвацца ў бой ці не?**

— Сёння яшчэ няма рашэння наконт таго, хто будзе прэтэндэнтам на ролю адзінага кандыдата ад сіл, якія выступаюць за праеўрапейскую незалежную Беларусь. Але я не супраць паспрабаваць. І разумею, што гэта вялікая адказнасць і шмат працы.

**— А яшчэ — тоны бруду і кампрамату, якія звычайна вывальвае на апазіцыйных палітыкаў афіцыйная прапаганда…**

— Палітычная дзейнасць амаль ва ўсім свеце суправаджаецца такімі рэчамі, але ў Беларусі гэта існуе ў асаблівай форме. Трэба быць унутрана падрыхтаваным. Хаця ад усяго, канешне, застрахавацца ўсё роўна немагчыма.

**— "Белгазета" днямі зрабіла прагноз, што за вас могуць аддаць свае галасы тыя, хто падзяляе еўрапейскія каштоўнасці і выступае за беларускую незалежнасць…**

— Я разлічваю на людзей актыўных, якія хочуць змен у Беларусі. Тых, хто задумваецца не толькі пра сённяшні дзень, але і пра будучыню сваіх дзяцей. Але не толькі на іх. Хачу, каб як мага больш людзей перакаваліся, што альтэрнатыва таму, што мы маем сёння, ёсць і што людзі здольныя ўплываць на сваё жыццё.

**— Лукашэнку ў свой час падтрымала нямала людзей сталага веку…**

— Сёння нават у межах адной сям'і можа быць пэўны падзел паводле палітычных поглядаў. І ёсць шмат людзей старэйшага веку, якія хочуць, каб Беларусь была нармальнай еўрапейскай краінай. Мне падаецца, самае галоўнае падчас любой выбарчай кампаніі — мабілізаваць свой электарат. А таксама пераканаць тых людзей, якія вагаюцца: ім не падабаецца цяперашняя палітыка, але яны не бачаць акрэсленай палітычнай альтэрнатывы. Мастацтва сапраўднага палітыка — зрабіць так, каб яны яе ўбачылі.

Праблема Беларусі не ў тым, што ёсць Лукашэнка, а ў тым, што людзі лічаць аўтарытарную мадэль улады эфектыўнай. І пытанне ў тым, як пераканаць людзей, што аўтарытарызм — гэта самаізаляцыя і адсутнасць перспектыў.

**— Пару нумароў таму "Наша Ніва" напісала пра вас так: *"Лагвінцу яшчэ трэба шмат чаму вучыцца ў публічнай палітыцы. Напрыклад, лепш прамаўляць ці вучыцца дамаўляцца з рознымі людзьмі. Але чаго дакладна няма ў Лагвінца, дык гэта абыякавасці".***

— Я нармальна стаўлюся да крытыкі. Як кажуць, век жыві — век вучыся. Даўно вучуся міжнародным стасункам, паліталогіі, хоць і сам яе, дарэчы, выкладаю. Палітыка — гэта праца з людзьмі, а яна бясконцая, тут удасканальвацца трэба ўвесь час, і ніколі не варта спыняцца.

**— Вы лічыце сябе палітычным тэарэтыкам ці усё ж практыкам?**

— Можна сказаць, што ў Беларусі няма магчымасці разгарнуцца — у нас дэ-факта адсутнічае палітычная канкурэнцыя. Але ў рамках таго, што магчыма, раблю практычныя крокі. Напрыклад, некалькі разоў балатаваўся, быў адным з арганізатараў вялікіх мерапрыемстваў, такіх як Беларускі еўрапейскі форум, каардыную працу экспертаў над Народнай праграмай — памятаеце, нядаўні прыезд у Мінск Бальцэровіча і іншых вядомых людзей з Еўропы? Хаця, што да тэорыі, то паранейшаму атрымліваю вялікае задавальненне ад працы з моладдзю і, дзякуй Богу, маю магчымасць выкладаць.

**— Напэўна, лекцыі чытаеце не ў дзяржаўных ВНУ?**

— Зараз чытаю курс пра еўрапейскую інтэграцыю і яе каштоўнасці ў Інстытуце Гётэ, некалькі год запар — у нашым Еўраклубе. Год таму выкладаў курс пра Беларусь і яе палітыку ў пяці найпрэстыжных польскіх універсітэтах.

**— Не кожны сучасны беларускі палітык можа пахваліцца веданнем некалькіх моў…**

— Я займаюся таксама і перакладамі. Між іншым, на еўрапейскай палітыцы зуб з'еў *(усміхаецца).* Калі ў Еўрапарламенце першы раз перакладаў прамову Аляксандра Мілінкевіча з беларускай мовы на французскую (у снежні 2006-га, калі яму ўручалі прэмію Сахарава), то быў так засяроджаны і ўсхваляваны, што ў мяне сапраўды адкалоўся кавалак зуба...

Дарэчы, магу пахваліцца тым, што прайшоў неблагую школу еўрапейскай палітыкі. За некалькі год і працы перакладчыкам, і візітаў з дэлегацыямі ў Еўрапарламент меў стасункі з многімі адказнымі еўрапейскімі чыноўнікамі. І, назіраючы за імі, кожны раз адзначаў, што там вельмі высокія стандарты паводзін паміж палітыкамі. Нам такой эстэтыкі вельмі не хапае. У нас зусім іншы стыль — маргінальна-эксцэнтрычны. І ён хутка надакучвае.

## Адзіны, любы, ненаглядны

**— Не сакрэт, што некаторыя беларускія палітыкі ўжо публічна аб'явілі пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Напрыклад, той жа Валерый Фралоў, Анатоль Ляўковіч і іншыя. Але гэтых людзей даўно называюць палітычнымі нябожчыкамі. Як вы ставіцеся да гэтага, мякка кажучы, гуртка дзівакоў?**

— На мой погляд, пытанне, хто будзе наступным прэзідэнтам Беларусі, вельмі заўчаснае. Людзі спачатку павінны паверыць у магчымасць змен у нашай краіне. А палітыкі — пераканаць людзей, што гэта, нягледзячы на ўсе цяжкасці, магчыма. Бо ўсім зразумела: у Беларусі ёсць выбарчы працэс, але няма выбараў як механізму нармальнага, легітымнага прыходу да ўлады.

Што тычыцца тых, чые прозвішчы вы назвалі, то добра, што людзі маюць амбіцыі. Толькі варта добра прыглядацца, што ёсць за душою апроч амбіцый.

**— Вы верыце, што апазіцыя здолее дамовіцца наконт адзінага? Гэта не ўдалося зрабіць ні на мінулых, ні на пазамінулых выбарах.**

— Лічу, што варта дамаўляцца наконт адзінага з адказнымі людзьмі, якія штосьці з сябе ўяўляюць. І весці перамовы сярод ідэйна блізкіх людзей. Пасля гэтага можна размаўляць з іншымі. Пытанне толькі ў тым, наколькі ўсе прэтэндэнты на прэзідэнцкую пасаду будуць самастойнымі гульцамі. Мне падаецца, што гэтым разам асноўныя палітычныя сілы могуць дамовіцца паміж сабой, але ніхто не выключае магчымасці з'яўлення іншых кандыдатаў, якія будуць мець падтрымку альбо ад улады, альбо ад Крамля. Так было і раней.

**— Шчыра кажучы, мне не верыцца, што нашы палітыкі змогуць выбраць з сябе любімых самага годнага. Усё роўна нехта застанецца пакрыўджаным у сваіх лепшых памкненнях і вырашыць махнуць шашкай…**

— Дэмакратыя ў дэмакратычным асяродку існуе — з гэтым нічога не паробіш *(усміхаецца).* Таму такі варыянт развіцця падзей выключаць не трэба. Але, памятаеце, у 2004-м ва Украіне, нягледзячы на мноства кандыдатаў, Юшчанка ўспрымаўся як адзіны сур'ёзны, бо за ім былі сур'ёзныя сілы.

**— Адзін з палітыкаў, які сабраўся ў прэзідэнцкі паход, літаральна днямі тлумачыў мне: *"Ведаю, што не перамагу, але ўсё роўна буду балатавацца. Хоць грошай атрымаю. А ў апошні момант здымуся на карысць самага моцнага кандыдата".* Другі таксама шчыра сказаў: *"Атрымаю пасведчанне кандыдата у прэзідэнты — будзе што ўнукам паказваць".* Але зразумела, што ў сваіх перадвыбарных прамовах яны будуць казаць зусім іншае…**

— Бывае розная матывацыя… Палітыка — гэта сфера, дзе ідзе змаганне за давер людзей. У рэшце рэшт, нягледзячы на вельмі дэфармаваную публічную прастору, выбаршчыкі адчуваюць фальш і ведаюць, хто ёсць хто.

**— Кіраўнік Партыі левых "Справядлівы свет" Сяргей Калякін не так даўно заявіў: маўляў, ёсць тры рэальныя прэтэндэнты на ролю адзінага — кіраўнік кампаніі "Гавары праўду!"Уладзімір Някляеў, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, генерал Валерый Фралоў. Вам не здаецца, што ў большасці выбаршчыкаў гэтыя прозвішчы, як і некаторыя іншыя, выклікаюць не надзею на перамены, а толькі саркастычную ўсмешку?**

— У нашым грамадстве існуе не вельмі высокая падтрымка любога альтэрнатыўнага кандыдата. Але грамадскія настроі могуць мяняцца.

**— А пры чым тут настроі грамадства, калі выбіраць адзінага будуць, можна сказаць, вузкім колам?**

— Пытанне з адзіным якраз будзе вырашацца не міжсабойчыкам, а, напрыклад, праз Кангрэс дэмакратычных сіл, у якім удзел змогуць узяць актывісты і ўсе зацікаўленыя асобы. Пажадана з адзіным кандыдатам вызначыцца як мага раней.

**— Калісьці вядомы сацыёлаг Алег Манаеў так ахарактарызаваў тактыка-тэхнічныя дадзеныя кандыдата ў прэзідэнты, у якога ёсць сур'ёзныя шанцы на перамогу: мужчына, веруючы, досвед кіравання — гаспадарнік, узрост за 45, жанаты, са здольнасцю выбудоўваць канструктыўныя адносіны як з Расіяй, так і з Захадам…**

— О! Мне шмат хто кажа, што я падпадаю *(усміхаецца)*. На мой погляд, гэта не абсалютныя крытэрыі. І не варта імі абмяжоўвацца. Увогуле, няма ўніверсальнага рэцэпта, як перамагчы на выбарах. А калі б быў, то ўсё ўжо даўно вырашылася б.

**— Уладзімір Някляеў пералічыў некаторыя пытанні, якія паўстануць у будучыні перад адзіным кандыдатам: ці запрашаць людзей на Плошчу паводле вынікаў выбараў? Калі запрашаць, то як забяспечыць бяспеку людзей? Вы можаце адказаць на гэтыя пытанні?**

— У беларусаў адабралі права выбіраць, але ніхто не адабраў у іх права на мірны пратэст. І калі палітычная сістэма выбудавана такім чынам, што не дае магчымасці, каб людзі, якія трымаюцца іншых поглядаў, маглі ўплываць на дзяржаўную палітыку, то палітыкі, якія ў большай ці меншай ступені прадстаўляюць іх інтарэсы, маюць права звяртацца да людзей, каб яны выйшлі на вуліцу і сваёй прысутнасцю прадэманстравалі свой выбар.

Мірны пратэст — гэта агульная справа грамадзян, якія бачаць, што ўлада груба ігнаруе іх меркаванне. Праўда, кожны вырашае сам, ці гатовы ён дзеля будучыні сваёй краіны скарыстацца магчымасцю пратэставаць. І калі з'яўляюцца людзі, якія залікаюць да акцыі мірнага пратэсту, то менавіта на іх ляжыць велізарная адказнасць каб змінізаваць магчымыя наступствы. Але ў Плошчы 2010 і 2006 гадоў, на мой погляд, вінаваты ўлады, бо яны дапусцілі гвалт і ўчынілі яго.

**— А тыя, хто заклікаў чатыры гады таму пайсці да Дома ўрада, хіба не прадбачылі, чым можа скончыцца гэты паход?**

— Я і кажу пра тое, што трэба рабіць высновы з гісторыі. Месца, дзе збяруцца людзі пасля выбараў, на мой погляд, не важна. Самае галоўнае — колькасць. Павінна быць і дружына, якая нейтралізуе правакатараў. Чатыры гады таму мы бачылі, што колькасць людзей, якія гатовы адстойваць свой выбар, была недастатковай.

## Чужая гульня

**— У палітычных калідорах зараз гуляе такая цікавая версія: маўляў, Пуцін і кампанія цесным колам вырашылі, што наспеў час змяніць Лукашэнку на больш згодлівага і прадказальнага чалавека. І быццам бы вырашана адлучыць ад улады цяперашняга кіраўніка Беларусі прыгожа і элегантна — без крыві і рэвалюцый. Як вам такі сцэнарый?**

— Пагроза таго, што ў Беларусі можа распачацца небеларуская гульня, вельмі высокая. Бо наша краіна залежная ад Расіі. І тое, што расійскія палітыкі маюць розныя інструменты ўплыву на сітуацыю ў Беларусі, — таксама праўда. Апошнія ўкраінскія падзеі дэманструюць, што ў Крамлі сядзяць людзі, якія лічаць, што могуць вырашаюць лёс свету. Але беларусам трэба думаць перш за ўсё пра сваю краіну і пра свае інтарэсы.

Хто можа быць прарасійскім кандыдатам? Пешкі на шахматную дошку ў такой гульні можна паставіць любыя: ад былых наменклатуршчыкаў да цяперашніх дэмакратаў, якія дзейнічаюць на палітычным полі.

**— Паводле вашых прагнозаў, ці могуць сярод рэальных прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла з'явіцца ўплывовыя бізнесмены, дырэктары прадпрыемстваў?**

— Гэта магчыма альбо толькі з дазволу цяперашняга кіраўніка дзяржавы, альбо ў тым выпадку, калі ён сам не будзе балатавацца. Гледзячы на былыя прыклады, ніхто з наменклатуры рызыкаваць сваёй кар'ерай і нават жыццём не будзе.

**— Як думаеце, калі Лукашэнка раптам назаве свайго пераемніка, апазіцыя яго падтрымае? Пытаюся таму, што дагэтуль некаторыя перакананы, што лепш хто заўгодна, толькі не Аляксандр Рыгоравіч.**

— А што памяняецца, калі ён раптам назаве імя свайго стаўленіка? Усё роўна будзе адабранае ў народа права на празрыстыя і справядлівыя выбары — трэба ж неяк забяспечыць свайму чалавеку доступ да трона.

**— Калі ўсё так песімістычна і выбарчае заканадаўства настолькі недасканалае, абгрунтуйце, чаму ўвогуле варта ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі?**

— У любым грамадстве падчас выбараў расце запыт на альтэрнатыву. Так ці інакш людзі міжволі пачынаюць параўноўваць. І калі няма якаснай альтэрнатывы дзейнаму кіраўніку дзяржавы, атрымліваецца, што палітычнае жыццё ў краіне ўвогуле застывае. Альтэрнатыву можа прызначыць і сам рэжым, але гэта будзе нашмат горш для грамадства. Апазіцыі варта ўдзельнічаць у палітычных працэсах, калі ёсць хоць невялікі шанец павялічыць грамадскую падтрымку, дадаць людзям веры, разумення сітуацыі і перспектыў. Гэта магчымасць пашырыць кола прыхільнікаў, агучыць набалелыя пытанні, атрымаць дазвол на пікет, сустрэчу з выбаршчыкамі і гэтак далей. Будучыня непрадказальная, трэба быць падрыхтаваным да нечаканасці, маючы дзеяздольную каманду, якая і ствараецца падчас выбараў.

**— На вашу думку, людзі сёння цікавяцца палітыкай і палітыкамі ці іх больш хвалююць, напрыклад, тыя ж кошты — на прадукты, паліва, камунальныя паслугі?**

— І ў Нямеччыне, і ў Амерыцы людзі найперш цікавяцца станам рэчаў у эканоміцы. Немцы паверылі ў дэмакратыю і правы чалавека толькі пасля паспяховых эканамічных рэформаў Адэнаўэра і Эрхарда.

Пераканаўчых індыкатараў таго, што ў нас сёння пратэстныя настроі ў людзей растуць, не назіраецца. Рэжым выкарыстоўвае настолькі магутныя сродкі прапаганды, што шмат у каго адпадае жаданне ўвогуле цікавіцца палітыкай. І трэба ўвесь час людзей пераконваць, што ад іх штосьці залежыць. І пакуль большыня беларусаў не адчуе, што іх дзейнасць і голас маюць сэнс, складана чакаць, што ў нас нешта зменіцца.

**— Пра што сёння трэба перш за ўсё гаварыць выбаршчыкам, каб яны паверылі альтэрнатыўнаму кандыдату ў прэзідэнты? Пра карупцыю, недасканалае выбарчае заканадаўства, заробкі ці пра нешта зусім іншае?**

— Найперш трэба гаварыць пра тое, што хвалюе людзей. І тое, што вы пералічылі, — вельмі важна. Гэтыя тэмы абавязкова павінны быць у арсенале любога кандыдата. Таксама пытанні Народнага рэферэндуму, бо яны сфармуляваны на падставе інтарэсаў людзей і краіны.

## Прамень аптымізму

**— На адной з канферэнцый вы заўважылі: *"Выбары 2015 года не будуць такімі ўжо нецікавымі і прадказальнымі, як некаторыя мяркуюць".* Што мелі на ўвазе?**

— Ёсць передумовы, што людзі абудзяцца. У грамадстве вялікая стомленасць ад 20-гадовага неўтаймаванага і канфліктнага кіравання. Людзі добра памятаюць, як хутка тры гады таму абясцэньваліся грошы, што ўвесь час растуць цэны, што моладзь, на жаль, усё больш думае, як сябе рэалізаваць за мяжой, а не дома, бо тут — тупік.

**— Некаторыя лічаць беларускіх апазіцыйных палітыкаў проста няўдачнікамі — за 20 гадоў кіравання Лукашэнкі не здолелі ні ў парламент трапіць, ні на выбарах перамагчы, хаця б і мясцовых…**

— З аднаго боку, апазіцыі трэба больш працаваць, а з іншага — у нас створаны такія ўмовы, што да канца не ясна, хто і якую мае падтрымку ў краіне. Але справядліва і тое, што ў нашай апазіцыі ёсць людзі, якія саманадзейна лічаць, што, калі б адбыліся свабодныя і празрыстыя выбары, яны хоць заўтра на белым кані ўехалі б у парламент. Я лічу, што заганна так думаць. Трэба працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць! Патэнцыял ёсць.

**— Скажыце шчыра: вы верыце, што ў наступным годзе ў Беларусі можа быць новы прэзідэнт?**

— Я веру ў лепшую еўрапейскую, нацыянальна свядомую Беларусь. Веру, што нават у наступным годзе ў кандыдата ад дэмакратычных сіл ёсць магчымасць атрымаць падтрымку большасці выбаршчыкаў. Гэтае пытанне — першае на парадку дня апазіцыі!

**— Дазвольце ўдакладніць: на чым грунтуецца такі аптымізм?**

— Ніколі не трэба складаць рукі. Палітыкі павінны апеляваць да пачуццяў і спадзяванняў людзей. І калі спрабуеш заваяваць давер людзей, вельмі важна выпраменьваць стрыманы, адэкватны, але аптымізм. Без гэтага немагчыма перамагчы.

## Скажы мне, хто твой брат...

**— Калі не памыляюся, вы — сваяк вядомага ў мінулым бізнесмена Віктара Лагвінца, які спачатку быў у камандзе Лукашэнкі, блізка сябраваў з Іванам Ціцянковым. Але ў 1999 годзе паспяховы прадпрымальнік трапіў у турму, а пасля вызвалення з'ехаў у Маскву. Вы падтрымліваеце з ім адносіны?**

— Віктар — мой траюрадны брат. Час ад часу мы з ім сустракаемся. Цяпер ён вядзе бізнес у Маскве.

**— Ён раіў вам не гуляць у палітычныя гульні?**

— Гэта хто з нас больш гуляў? У 1994 годзе Віктар запрашаў мяне ў каманду Лукашэнкі, казаў, што сам будзе актыўна падтрымліваць яго. Але я адмовіўся. Бо не меў аніякіх сімпатый да гэтага палітыка.

Калі ў 2004 годзе я планаваў балатавацца ў Палату прадстаўнікоў, ехаў з канферэнцыі праз Маскву. Запытаўся ў яго: калі раптам нешта здарыцца, ці можна будзе разлічваць на ягоную падтрымку маёй сям'і? Адказ быў станоўчы…

**— Паводле вашых назіранняў, зняволенне змяніла ягоныя погляды на жыццё?**

— Відаць, так. І светапогляд, і лёс...

У свой час, калі я жыў з сям'ёй у Францыі, Віктар параіў мне будаваць жыццё і кар'еру за мяжой. Але я ганаруся, што вярнуўся. Хачу быць і жыць тут. Пры гэтым не асуджаю тых, хто эміграваў з Беларусі, — значыць, так склаліся абставіны. І добра, што ў гэтых людзей быў выбар — з'ехаць ці застацца. Бо магло быць і па-іншаму...

**— Наколькі ведаю, вы не так даўно другі раз ажаніліся. І чула, што жонка нашмат маладзейшая за вас…**

— Так, два гады таму я пабраўся другім шлюбам. Маёй жонцы 27 гадоў, мне — 42. Ад першага шлюбу ў мяне ёсць дарослы сын — яму ўжо 20 гадоў.

**— Не кожны палітык гатовы шчыра гаварыць пра сваё асабістае жыццё…**

— На мой погляд, неабавязкова ўсё расказваць, але не трэба маніць. Існуюць розныя магчымасці сказаць тое, што ты хочаш. І гэта тычыцца не толькі асабістага жыцця.

**— Алесь, скажыце: калі выбары зноў будуць няўдалымі для апазіцыі, вы сыдзеце з палітыкі?**

— Не думаю. Бо не з тых, хто апускае рукі. Хачу бачыць Беларусь еўрапейскай, нацыянальна свядомай краінай. І ведаю, што ў нас ёсць магчымасць зрабіць яе краінай нашай мары...

ПАМЯТЬ

# С войны не вернулись...

*Казалось бы: уже 70 (целых 70!) лет минуло после освобождения от гитлеровской нечисти белорусской столицы. Столько же вскоре будет и нашей Великой Победе. Но все, что в страшную годину испытаний выпало на долю взрослых и детей, всех поголовно, не то что не забывается — болит в душе и сердце...*

22 июня 1941 года. Воскресенье. Солнечный теплый день. С утра мы с мамой отправляемся в магазин за покупками: в доме кончаются спички, соль и мыло. Мама умудрилась, сэкономив на самом необходимом, еще купить мне конфет — драже в коробочке в виде пчелиного улья. Подпрыгивая от радости, иду рядом с ней домой. По дороге заглядываем в колхозный клуб рядом с магазином (под клуб приспособили дом репрессированного в 1937 году односельчанина) — послушать радио. В довоенные годы оно было большой редкостью в деревне, а тот, кто разжился на радиоприемник, считался богатеем. Только колхоз смог приобрести такой приемник, чтобы люди слушали передачи. Старшие больше интересовались новостями, молодежь — песнями. И в тех и в других передачах ежедневно восхвалялись достижения советской власти в строительстве социализма...

Кое-какие успехи были и у нашего колхоза "Красные Луки" в тогдашнем Василевичском районе Полесской области. Осушили большой массив торфяников и получили неплохой по тем временам урожай. Колхоз был участником Выставки достижений сельского хозяйства в Москве, получил приз — так называемую "полуторку" — на зависть соседним хозяйствам.

...Зашли в клуб. Здесь было людно — шла какая-то занимательная передача. И вдруг как гром среди ясного неба — голос Молотова, объявившего о вероломном нападении фашистской Германии на Советский Союз. По всей границе — от Балтийского до Черного морей.

Все притихли, попросту онемели от страшной, неожиданной вести. Вдруг женщины заголосили, запричитали, заплакали. Скоро всех как ветром сдуло. Понесли чудовищную весть по всей деревне.

Многие из деревенских в это время гуляли на свадьбе: Юрий Буковец брал в жены красавицу-односельчанку Надежду Клопот. Свадьба, понятно, расстроилась — не до веселья всем было, хотя никто еще ясно не представлял, что впереди. Но чувствовали нутром, понимали: война — это смерть, кровь, слезы, горе всем — и тем, кто с оружием в руках станет в ряды защитников Отечества, и тем, кто останется дома, на чьи плечи ляжет тяжкая ноша ответственности за судьбы детей и стариков. А это в основном женщины и неокрепшие подростки.

Не забуду, как плакали женщины и дети, когда мобилизованные в армию отъезжали на колхозных упряжках в Василевичи. Плакали и сами покидающие близких. Максим Шиленок, видно, предчувствовал, что видит жену и двух деток-малолеток в последний раз. Уехал по мобилизации и мой отец...

В те дни мы надеялись, что враг скоро будет остановлен, что Красная Армия вот-вот разгромит подлых захватчиков и мужчины вернутся домой. Никто ведь не знал истинного положения на фронте. Радиоприемник в клубе изъяли, сведений о фронте не доходило. Жизнь в деревне будто остановилась. Но вскоре то, что наша армия отступает, поняли и без официальных сообщений: явился к нам представитель военкомата с заданием спешно организовать рытье противотанкового рва силами женщин, стариков, подростков. Значит, фронт катится на восток и — не приведи Бог! — немецкая армия может, чего доброго, дойти аж до наших Лук...

Рассчитали: копать ров надо на запад от деревни, ведь немцы будут наступать именно с запада. "Стратег" из военкомата указал место: вот здесь, по дороге на деревню Хамичи, мы и остановим вражеские полчища!

Абсурдность этой тяжелой работы была налицо. Наш противотанковый ров не мог загородить дорогу немецким танкам — преграду ведь легко объехать и справа, и слева. Концы рва упирались в маленькую рощицу и редкий сосновый лес, никакое это не препятствие для серьезной военной техники. Даже женщины говорили, что ров в этом месте — бессмыслица. Однако все с лопатами дружно вышли на непривычное дело. Трудились в поте лица с утра до позднего вечера, а жара стояла неимоверная. Но энтузиазм у всех был небывалый. Мама каждый день приходила очень усталая. Выкопали ров довольно широкий, но длиною он был всего метров триста. Поэтому, и когда отступала наша армия, минуя деревню, и когда шли нахрапом немцы, и осенью 1943 года, уже при освобождении моих родных мест, и после этот ров никто, кроме нас, мальчишек (мы там играли в войну), даже не брал в расчет...

Об ушедших воевать мужчинах никаких вестей в годы оккупации, понятно, не поступало. Всякая связь с миром была потеряна. Лишь глубокой осенью 1941-го несколько человек, что попали в окружение в районе Рославля, но смогли удрать из колонны военнопленных, одолели длинный путь пешком через разные преграды и смогли добраться домой. Они-то и рассказали о неуправляемости в частях Красной Армии, бестолковости приказов, панике, незнании обстановки. Их, мобилизованных, даже не обмундировали, не всем раздали оружие и боеприпасы. Одна винтовка приходилась на два-три человека. Приказав рыть траншеи и окопы, вручили саперные лопатки. По сути безоружных, их и взяли в плен — не было чем обороняться...

После освобождения деревни в 1943-м уцелевших мужчин снова призвали в действующую армию и отправили на фронт. Лишь некоторые остались живы, израненными инвалидами добрались до своих мест. Среди них был и мой отец Прокофий Заяц. В Германии, под Грауденицем, в феврале 1945 года он получил тяжелое ранение и остался на всю жизнь калекой. Как и Архип Попченко...

О погибших или пропавших без вести своих мужьях, отцах, братьях земляки ничего не слышали. Да и после освобождения деревни узнали лишь о тех, кто остался жив и смог написать домой. А многие так и остались в неведении, где и как оборвалась жизнь сложивших головы (или причисленных к пропавшим без вести) родных людей...

Не узнала о судьбе своего мужа Юрия Буковца и Надежда Клопот, чью свадьбу играли в черный день 22 июня. Не узнал и сам Юрий, что у него через девять месяцев после расставания с молодой женой родился сын, названный Иваном. Когда малыш подрос, то стал как две капли воды похож на своего отца. Настолько похож, что родственники, соседи звали мальчишку не Ваней, а Юркой. Он рос под крылом матери, но ждал отца вместе с нею всю жизнь.

Таких примеров было множество. Сколько же довелось вынести в то грозное и уже в послевоенное время осиротелым семьям! Помню, осенью 1944 года пришел в школу на урок мой одноклассник Миша Чирик. Молча, с красными глазами, сел за парту. Мы начали спрашивать: что случилось?

— Извещение пришло — папа погиб, бомба попала прямо в его окоп...

Крупные слезы катились по впалым детским щекам. Жаль было Мишу, и не на него одного обрушилась горестная весть.

А безутешность моей тети Ульяны, чей сын, мой двоюродный брат Василий Демиденко пропал без вести в том же 1944 году? Видел, как она часто доставала из шкафа платочек с завернутыми в него двумя письмами. В одном — от Васи с фронта — тот писал, что бойцы идут в наступление, немецкая армия скоро будет разбита, и он вернется домой. Письмо вселяло надежду, что так оно и будет, что сын наконец постучится в дверь родного дома. На фронтовом треугольнике — номер полевой почты и штемпель: "Проверено военной цензурой". А второе письмо было с извещением, что Василь пропал без вести. Развязывая платочек, женщина со слезами приговаривала:

— Васечка-сыночек, где ты, родимый? Отзовись! Все глаза выплакала по тебе, жду хоть какой весточки!

Не отозвался Васечка. Как ушел на фронт 19-летним, так и остался в памяти матери и родных молодым, талантливым, добрым парнем. Письмо сына тетя Ульяна берегла до конца своих дней.

Десятки человек из моей деревни не переступили вновь родного порога. Остались вдовами многие молодые женщины, без отцов и братьев — мои сверстники. Не вышли замуж девушки, чьи парни остались лежать в братских могилах на полях сражений с фашистскими нелюдями на огромных просторах от Москвы до Берлина.

...О том, как не остаться в долгу перед памятью погибших, мои земляки начали говорить в 1960-е годы прошлого столетия. Памятник умершим от ран и болезней воинам Красной Армии на деревенском кладбище был установлен еще в 1950-е годы. Но нужен был, очень нужен памятник всем погибшим жителям Лук и двух небольших деревень — Подлук и Хатыней, присоединенных к нашему колхозу при укрупнении хозяйств в послевоенные годы. Колхоз же вместо прежних "Красных Лук" получал поочередно названия то "имени Жданова", то "имени Фрунзе" — после присоединения нас к Калинковичскому району. По инициативе бывшего тогда председателем колхоза ветерана войны Карпа Ивановича Шпакова решили поставить памятник в центре Лук, рядом с новым колхозным клубом.

Были собраны имена погибших на фронтах и в партизанских отрядах. В списке оказалось 79 человек: 41 — из Лук, 18 — из Подлук, 20 — из Хатыней. Огромная цифра для небольших поселений! А ведь погибли люди в расцвете лет и сил. Сколько они могли бы сделать в своей жизни, не случись война!

Памятник был отлит в мастерской в Мозыре еще в 1967 году — фигура солдата, скорбно застывшего над плитами с именами погибших. Благодарные жители заботливо ухаживают за памятником, несут к нему цветы. Бывая на малой родине, не забываю прийти к нему и я, — поклониться тем, кто отдал жизнь в борьбе с фашистской чумой.

Вот уже без малого полвека стоит в центре деревни этот памятник — и "будет он вечно стоять над землей", как сказал поэт. Будет говорить живущим и тем, кто придет за нами: не забудем, что совершили старшие поколения в дни войны и мира ради жизни, ради нас и будущего Отчизны! Будем их достойны в своих делах и помыслах, в праздники и будни, при звуке фанфар в честь героев и в минуты тихого горестного раздумья.

Благодарная память и слава вам, дорогие мои земляки!

**Владимир ЗАЯЦ, ветеран труда, житель г.Скидель Гродненской области.**

ТРЫВОГА

## Што пасеюць заўтрашнія настаўнікі?

Інфармацыя пра тое, што выпускніца педагагічнага ўніверсітэта — без пяці хвілін настаўніца — распаўсюджвала спайс сярод сваіх патэнцыяльных вучняў, не проста ўразіла, а ўвагнала ў роспач. Атрымліваецца, што цяпер, адпраўляючы дзіця ў школу, бацькі не могуць быць упэўнены не толькі ў тым, што нейкую дрэнь яму не падсунуць равеснікі, але і ў тым, што небяспека не будзе сыходзіць ад настаўнікаў.

Магчыма, нехта абвінаваціць мяне ў бяздоказным абагульненні. Аднак давайце сыходзіць з простай логікі. Ужо нікога не здзіўляе, што ў педуніверсітэты прымаюць абітурыентаў, якія набралі такія нізкія балы на тэсціраванні, што можна лічыць, быццам яны ўвогуле яго не здавалі. Аб гэтым кажуць нават кіраўнікі адукацыйнай галіны. Канешне, можна спісаць нейкі працэнт такіх выпадкаў на хваляванне, хваробу ці яшчэ нейкія суб'ектыўныя фактары. Але, думаю, у большасці гэта сведчанне таго, што маладыя людзі папросту кепска вучыліся ў школе. А гэта часцей за ўсё здараецца з тымі, у каго бацькі абыякава ставяцца да сваіх дзяцей, у выніку чаго ў дзяцей, як правіла, ёсць шмат вольнага часу без колькі-небудзь сур'ёзнага кантролю. У наш час паўсюдных спакус і магчымасцяў такія дзеткі к 16—18 гадам звычайна ўжо абрастаюць многімі заганнымі звычкамі, у тым ліку і самымі небяспечнымі для здароўя. А ўжо спосаб атрымання грошай на гэтыя звычкі ляжыць на паверхні — распаўсюджваць іх сярод іншых. І ў каго-каго, а ў настаўнікаў магчымасці "ахопу мэтавай аўдыторыі" проста бязмежныя.

Наіўна было б думаць, што гэтая "заўтрашняя настаўніца" ўпершыню трымала ў руках спайс, калі яе затрымалі праваахоўныя органы. З колькімі сваімі аднакурснікамі яна "падзялілася" за 5 гадоў навучання ў педуніверсітэце? Колькі будзе закінута ў школу бомбаў запаволенага дзеяння?



**Аляксандра БАТУРЫНА.**
*Мінск.*

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

***У "Народнай Волі" за 15 ліпеня з задавальненнем прачытаў матэрыял "100 гадоў за плячыма Яна Чарняца". Скажыце, калі ласка, а ці многа ў Беларусі такіх доўгажыхароў?***

**Мар'ян КАПУЦКІ.**
*Гродзенская вобласць.*

## 100-гадовы юбілей адзначылі больш за 500 чалавек

Так, Беларусь можа ганарыцца сваімі доўгажыхарамі. На апошні час налічвалася 558 чалавек, якім больш за 100 гадоў. Па стане на 1 красавіка восем асоб дасягнулі 110 гадоў. Трое з іх пражываюць у Гродзенскай вобласці, двое — у Мінскай, па адным — у Віцебскай, Брэсцкай і Магілёўскай абласцях.

Але абсалютнымі рэкардсменамі можна лічыць доўгажыхароў, якім споўнілася 114 гадоў. Месца пражывання аднаго — Мінская вобласць, другога — Віцебская, трэцяга — Гродзенская вобласць.

Заўважым, сярод людзей, якім за 100 гадоў, жанчын у 6,4 раза больш, чым мужчын.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Калі зладзіць наваселле Маладзёжны тэатр?

***Ужо не першы год ідзе рэканструкцыя ў Беларускім драматычным маладзёжным тэатры. Можа, вядома, калі трупа нарэшце пачне працаваць на новай сцэне?***

**Валянціна МІНІЧ, Мінск.**

У верасні Маладзёжны тэатр упершыню адкрые сезон ва ўласным будынку, якое прыстасоўвалі пад яго патрэбы з 2009 года. Агульная плошча новага будынка Маладзёжнага тэатра — каля 3,5 тыс. кв. метраў.

— *Зала разлічана на 300 месцаў*, — цытуе дырэктара тэатра **Віктара Старавойтава** minsknews.by. — *Мы памянялі планіроўку, зрабілі глядацкія ложы ў партэры. Паставілі светлавыя ложы, каб пражэктары асвятлялі сцэну збоку, а не патыліцы гледачоў. Глыбіню сцэны павялічылі з 7 да 13 метраў. Усё абсталяванне зманціравана... Плануем адкрыцца да 1 верасня.*

ЛИКБЕЗ

## Ушел и... не вернулся

*Что делать, если близкий человек неожиданно исчез и несколько дней не появляется дома?*

— Если у вас есть все основания считать, что человек стал жертвой преступлений или с ним произошло какое-то несчастье — срочно обращайтесь в милицию, — *рекомендует пресс-служба МВД.* — Заявление можно подавать в органы внутренних дел как по месту его исчезновения, так и по месту жительства. Там ваше обращение обязаны принять и выдать талон-уведомление. Последний даст возможность интересоваться ходом и организацией розыска. Второй вариант — воспользоваться услугами Бюро регистрации несчастных случаев. Сравнительно недавно эти милицейские подразделения были открыты во всех областных центрах. К ним стекается вся необходимая информация из больниц, моргов, приемников-распределителей, ГАИ и территориальных органов внутренних дел. Их телефоны:

Минск — 8-017-239-48-88;
Витебск — 8-0212-364-639;
Гомель — 8-0232-703-700;
Могилев — 8-0222-444-850.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Ці трэба змагацца з баршчэўнікам?

Не мог пакінуць раўнадушным артыкул Любові Лунёвай "***Баршчэўнік наступае і перамагае***", надрукаваны ў "Народнай Волі" 1 ліпеня 2014 года. Баршчэўнік Сасноўскага знайшоў прыдатнае асяроддзе ў Беларусі, і многія тысячы гектараў зямлі ў нашай краіне захапіла гэтая расліна. Толькі ў адным Мінску, як сказана ў публікацыі, у 2014 годзе баршчэўнік замацаваўся на плошчы 228 гектараў, а ў мінулым годзе (для параўнання) баршчэўнік рос "толькі" на 129 гектарах. Баршчэўнік — такая агрэсіўная расліна, што, трапіўшы на поле і аказаўшыся без нагляду, стаў займаць усе свабодныя месцы і стаў сапраўднай пагрозай, няшчасцем палёў і садоў.

Цэлыя інстытуты распрацоўваюць прэпараты для знішчэння гэтай расліны, трацяцца гіганцкія сродкі, але сітуацыя не мяняецца да лепшага. Можа, у іншай плоскасці трэба паглядзець на гэтую праблему? Калі нельга знішчыць, трэба паспрабаваць выкарыстоўваць баршчэўнік.

Баршчэўнік утрымлівае шмат карысных рэчываў: пратэінаў, вітамінаў, мікраэлементаў, цукраў.

Аб тым, што баршчэўнікі ў прыродзе паядаюцца мядзведзямі, ласямі, аленямі, зубрамі, авечкамі, козамі, каровамі, зайцамі, трусамі шмат пісалі ў працах, апублікаваных у XIX—XX стагоддзях. Па тэлевізары бачыў, як мядзведзь харчаваўся баршчэўнікам. Манголы выкарыстоўваюць яго як ранні вясенні корм, які хутка аднаўляе сілы аслабелых за зіму жывёл.

Лісце і плады баршчэўніка багатыя вітамінамі і эфірнымі алеямі. Дык чаму ж не паспрабаваць выкарыстоўваць яго ў якасці сіласу для жывёлы ці масла для аўтамабіляў, як, напрыклад, рапсавы алей? Навучыліся ж нават са смецця рабіць нешта карыснае!

Акрамя таго, баршчэўнік шырока выкарыстоўваецца таксама ў народнай медыцыне ў выглядзе адвараў лісця, пладоў і каранёў. А таксама водна-спіртавых экстрактаў пры жоўцева-каменнай хваробе, захворванні нырак, лёгкіх, пры расстройствах і катарах страўніка і кішэчніка. Адвары баршчэўніка п'юць пры нервовых і скураных захворваннях. У рэцэптах народнай медыцыны гаворыцца аб прыпарках з лісця баршчэўніка, якія дапамагаюць пры рэўматычных болях ў суставах.

Некалі сяляне шмат дзесяцігоддзяў не хацелі садзіць бульбу, якая з'явілася ў нас пасля адкрыцця Амерыкі. Цяжка ў гэта паверыць, але былі нават "бульбяныя бунты". Хто не верыць, пачытайце "Былое і думы" Герцэна. Нашы продкі толькі паступова прывыклі да памідораў, агуркоў, бульбы, завезеных з іншых кантынентаў планеты. Цяпер беларусы не могуць уявіць жыцця без гэтых прадуктаў харчавання.

Будзе карысным і вопыт выкарыстання баршчэўніка ў народаў Амерыкі і Каўказа, дзе няма з ім праблем.

З катастрафічным ростам насельніцтва на Зямлі ўзнікла харчовая праблема. Ці не дапаможа баршчэўнік вырашыць яе?

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ, былы вядучы спецыяліст Мінскага абласнога камітэта па экалогіі.**

ХОЧУ ЗНАТЬ!

## Чем полезна голубика?

*Расскажите, пожалуйста, о пользе голубики — сейчас в Беларуси как раз сезон этой ягоды.*

***Ольга ГРИЦ, Вилейка.***

В голубике содержится большое количество сахаров, пектинов, минеральных солей и витаминов А, С, РР. По содержанию железа она занимает пусть и не лидирующую позицию среди ягод, зато железо, которое входит в состав голубики, практически полностью и без остатка усваивается организмом.

Ягоды голубики помогают защищать организм от радиоактивного воздействия, способствуют выведению токсинов и шлаков, солей тяжелых металлов. Голубика благотворно влияет на деятельность желудочно-кишечного тракта, в частности кишечника и поджелудочной железы. Широко известна польза голубики и для кровеносной системы: она укрепляет стенки сосудов, улучшает процесс кроветворения.

Положительно влияет голубика на нервную систему, так как в ней содержится магний, который обладает эффективным успокаивающим действием. Голубика усиливает действие сахаропонижающих препаратов.

Свежая голубика обладает мощнейшим противомикробным действием. Употребление голубики служит прекрасной профилактикой многочисленных инфекционных заболеваний, к примеру, дизентерии. Еще одно бесценное свойство голубики — в ее способности расщеплять жиры. Вред голубики может проявиться при ее употреблении в больших количествах. В этом случае голубика может вызвать головную боль, тошноту и рвоту.

ВОСТРЫ ПОЗІРК

## Не «Роща», а «Гай»

*Гадоў дзесяць таму пад Мінскам з'явіўся новы чыгуначны прыпынак з цудоўнай назвай — "Гай". Але ў хуткім часе яго назва была заменена рускай — "Роща". І вось зусім нядаўна на сцяне невялічкага вакзальчыка з'явілася былая назва "Гай", хоць у электрычцы Мінск—Стоўбцы па-ранейшаму аб'яўляюць "Роща". Ці не пара кіраўніцтву Беларускай чыгункі больш аператыўна адсочваць змяненні ў сваёй жа гаспадарцы?*

**Вячаслаў ЦІХАНАЎ.**
*Мінск.*

